3 ВЕРАСНЯ 1999г. ПЯТНІЦА

# НАВІНЫ

№100 (631) КОШТ СВАБОДНЫ

стр.7

СОЧИНЕНИЕ НА ЗАДАННУЮ ТЕМУ

## В Женеве ищут ответ на вопрос: куда исчез Юрий Захаренко

**Олег ГРУЗДИЛОВИЧ**

С 30 августа по 3 сентября в Женеве проходит сессия Рабочей группы по насильственным или недобровольным исчезновениям. Эта группа была создана Комиссией ООН по правам человека для рассмотрения случаев исчезновений людей и обстоятельств этих исчезновений.

На нынешней сессии Рабочей группы рассматривается первое дело из Беларуси — исчезновение экс-министра внутренних дел, известного оппозиционного политика Юрия Захаренко. Рабочая группа приняла к рассмотрению информацию, предоставленную ей белорусскими и международными правозащитными организациями.

Еще 17 мая с.г. Рабочая группа предприняла так называемую срочную акцию, направив запрос об обстоятельствах исчезновения Юрия Захаренко белорусским властям. Затем последовало напоминание. Однако до сих пор никакой реакции из Минска не поступало, хотя правительства обязаны отвечать на подобные запросы в кратчайшие сроки.

На нынешней сессии Рабочей группе была представлена дополнительная информация, основанная главным образом на сведениях, поступивших в Общественную комиссию по расследованию обстоятельств исчезновения Юрия Захаренко, а также информация о положении с правами человека в Беларуси.

За разъяснениями о характере материалов про Юрия Захаренко, направленных в Женеву Общественной комиссией, НАВІНЫ обратились к председателю этой комиссии Олегу Волчеку. «Речь идет о материалах предварительного расследования исчезновения экс-министра, которое проводила комиссия. Это показания свидетелей, видевших, как Юрия Николаевича захватили неизвестные лица и увезли на «Жигулях», и выводы относительно характера этого преступления. Общественная комиссия считает, что оно носит ярко-выраженный политический характер», — сообщил О.Волчек.

Также комиссия информировала Рабочую группу о том, что власти Беларуси фактически ничего не предпринимают, чтобы найти бывшего министра внутренних дел, ответить общественности на вопросы, кто и зачем похитил Юрия Захаренко. ■

**Материал подготовлен с использованием информации пресс-центра Хартии'97**

## ПАЛІТЫЧНАЯ АФІША

**Внимание!**

**В ПИКЕТАХ УЧАСТВУЮТ ИЗВЕСТНЫЕ БЕЛОРУССКИЕ ПОЛИТИКИ**

**3 сентября** — ул.Есенина, 10, 17:00—19:00. **Юрий Хадыко.**

**6 сентября** — ст.метро «Тракторный завод», 16:00—18:00. **Алесь Беляцкий.**

**7 сентября** — ул.Любимава, 40, 17:00—19:00. **Александр Добровольский.**

**9 сентября** — ул.Есенина, 10, 17:00—19:00. **Виктор Ивашкевич.**

# Депутат за «железным занавесом»

## Белорусские власти во второй раз срывают международную миссию

● Они не пройдут. **Александр Лукашенко** опять конфликтует с международными политическими структурами

**Иван БАБИЧЕВ**

**Комитету по правам парламентариев Межпарламентского союза отказано в визите в Беларусь, который планировался на начало сентября. Уже во второй раз белорусские власти не пускают в страну членов Комитета, которые хотят на месте ознакомиться с нарушениями прав депутатов Верховного Совета.**

В прошлом году этот Комитет принял к рассмотрению тринадцать (!) дел о нарушении прав депутатов Верховного Совета 13-го созыва. Комитет потребовал объяснения этих фактов у официальной делегации. Весной Комитет принял решение направить свою миссию в Беларусь, чтобы на месте изучить ситуацию.

Миссии обещали все: и встречи с депутатами, чьи дела рассматриваются Комитетом, и контакты с оппозицией, и беспрепятственный доступ в тюрьмы к политзаключенным Кудинову и Климову, и получение информации от правозащитных организаций. Первоначально приезд миссии был запланирован на июнь. Однако перед самой поездкой власти отказались принять членов Комитета МПС. Потом официальный представитель «палаты» объяснил, что это было недоразумение и уважаемые члены миссии могут приезжать когда хотят и встречаться с кем хотят. Им даже гарантировали встречу без свидетелей с арестованными депутатами и с самим Валерием Щукиным.

Миссия вновь собралась, назначила сроки — начало сентября — и получила согласие. Но согласие белорусских властей — это просто такой излюбленный ход, после которого следует отказ. Получили в МПС отказ и в этот раз, под совсем уж идиотским предлогом – что, мол, многие из представителей властей, с которыми планировались встречи, находятся в отпуске. ►

*Окончание на стр.3*

# Міхаіл Чыгір адмовіўся ад прэм'ерства

**Рыгор БУЯН**

**Былы старшыня ўрада Беларусі Міхаіл Чыгір, які цяпер знаходзіцца ў зняволенні па абвінавачванні ў крадзяжы, 30 жніўня адмовіўся паўторна заняць пасаду прэм'ера ў фармуемым апазіцыяй урадзе.**

Як вядома, з прадстаўленнем на пост прэм'ера М.Чыгіра ў Вярхоўны Савет звярнуўся спікер Сямён Шарэцкі, які знаходзіцца ў Вільнюсе. «Міхаіл Мікалаевіч адкрыта кінуў выклік кіраўніку дзяржавы і ягонаму атачэнню, якое ў лістападзе 1996 года ўчыніла дзяржаўны пераварот, а калі на пачатку 1999 года Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь 13-га склікання прызначыў чарговыя выбары прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, ён праявіў мужнасць і вылучыў сябе кандыдатам, за што заплаціў турэмным зняволеннем», — напісаў Сямён Шарэцкі ў прадстаўленні.

Аднак Міхаіл Чыгір з-за кратаў перадаў катэгарычную адмову паўторна заняць прэм'ерскае крэсла. Яго жонка і адвакат Ю.Чыгір гаворыць, што Міхаіл Мікалаевіч не бачыць сэнсу займаць пасаду старшыні ўрада, знаходзячыся за кратамі. Ён папросту не здолее сябе рэалізаваць. Да таго ж намеснік міністра ўнутраных справаў Леанід Глухоўскі ўжо публічна заявіў, што праз месяц «справа Чыгіра» будзе перададзеная ў суд. Ю.Чыгір лічыць, што «следчай групе дадзеная ўстаноўка на працягу месяца пашыць абвінаваўчы кафтан», чым і тлумачыцца актывізацыя дзейнасці следчых. На мінулым тыдні яны ўпершыню за апошнія месяцы паспрабавалі дапытаць Міхаіла Чыгіра. Аднак ён адмовіўся даваць паказанні ў якасці абвінавачваемага: абвінавачванні па гэтых эпізодах яму не прад'яўляліся.

Адмова Міхаіла Чыгіра паставіла Вярхоўны Савет у цяжкае становішча. Парламент планаваў разгледзець яго кандыдатуру на сесіі ВС 11—12 верасня. Цяпер кіраўніцтву ВС патрэбна тэрмінова шукаць яму замену. Праз першага сакратара ЦК ПКБ Сяргея Калякіна перадаў сваё рашэнне не весці нейкія перамоваў аб апазіцыйным урадзе і кіраўнік «Рубіна» Анатоль Лашкевіч. Менавіта сакратара па міжнародных справах ПКБ пэўны час называлі ў незалежным друку ў якасці асноўнага прэтэндэнта. А.Лашкевіч не будзе кіраваць «ценявым» урадам, хоць пра прэм'ерства ў рэальным урадзе ён гатовы гаварыць. У кулуарах цяпер называюцца прозвішчы двух новых кандыдатаў у прэм'еры: Васіля Шлындзікава і Сямёна Домаша. Ці дасць з іх хто згоду быць «ценявым» прэм'ерам, невядома. ■

## ГАРАЧАЯ ЛІНІЯ

■ **Газета *New-York Times* апублікавала ў сераду на першай паласе фотаздымак галівудскага палаца, які набыў былы прэм'ер-міністр Украіны Павел Лазарэнка. Палац у 41 пакой раней належаў кінаакцёру Эдзі Мэрфі. Летась у верасні Лазарэнка набыў гэты маёнтак, заплаціўшы наяўнымі грашыма 6.750.000 долараў.** Тут цяпер жыве ягоная сям'я, а сам гаспадар сядзіць у турме каля Сан-Францыска, пакуль эміграцыйныя ўлады разглядаюць ягонае хадайніцтва аб палітычным прытулку, а таксама заяву ўладаў Украіны, якія патрабуюць выдаць ім былога прэм'ера, каб судзіць яго за крадзеж дзяржаўных сродкаў з Швейцарыі. Па падліках амерыканцаў, на пасадзе міністра энергетыкі і прэм'ер-міністра Украіны Лазарэнка атрымаў мільярды долараў, гандлюючы кантрактамі на пастаўкі газу.

■ **Улады Латвіі адмовілі ў рэгістрацыі грамадска-палітычнай арганізацыі «Коловрат», створанай прыхільнікамі «Русского национального единства», якія пражываюць у гэтай балтыйскай краіне.** Падставай для адмовы паслужыў той факт, што некаторыя заснавальнікі «Коловрата» прыцягваліся да адказнасці за парушэнне парадку.

■ **1 верасня адбылося паседжанне Камітэта па замежных справах Еўрапейскага Парламента.** Элізабет Шрэдтэр, прадстаўніца партыі «зялёных» Германіі, зноў аднагалосна абраная спецыяльным дакладчыкам па Беларусі ў вышэйшым заканадаўчым інстытуце Еўропы на бліжэйшыя 5 гадоў. «Я вельмі шчаслівая зноў працаваць з беларусамі», — заявіла нашаму карэспандэнту Элізабет Шрэдтэр.



## НАДВОР'Е

Віцебск +15-17
Магілёў +15-17
Мінск +17-19
Гродна +19-21
Гомель +16-18
Брэст +18-20

**Сёння** ўдзень па краіне чакаецца пераменная воблачнасць, пераважна без ападкаў, вецер усходні, 3—8 м/сек. Тэмпература паветра ў Віцебску і Магілёве — 15—17, у Гомелі — 16—18, у Мінску — 17—19, у Брэсце — 18—20, у Гродне — 19—21. **4—5 верасня** чакаеццца невялікая воблачнасць, без ападкаў, вецер пераменных напрамкаў, слабы. Тэмпература ноччу 2—7, на глебе і месцамі ў паветры замаразкі да 0 — -1, днём — 17—22.

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»**

**495 000**

ГРАМАДСТВА

# Канфлікт дзяржаўнага маштабу

З 1 верасня не працуюць рынкі Мінска, Гродна, Віцебска, Наваполацка, Полацка, Оршы, Пінска. НАВІНАМ стала вядома, што ўчора лідэры прадпрымальніцкіх структураў збіраліся ў Мінску, каб спланаваць свае далейшыя дзеянні




Рыгор БУЯН

**З 1 верасня аб'явілі гатоўнасць да бестэрміновай забастоўкі прыватныя прадпрымальнікі Беларусі. Зараз гандляры многіх рынкаў краіны проста не выходзяць на працоўныя месцы.**

Такім чынам прыватнікі пратэстуюць супраць прэзідэнцкага дэкрэта № 14, падпісанага 4 жніўня 1997 года. Дэкрэт патрабуе ад прыватных гандляроў сертыфікаты на ўсе віды рэалізуемых тавараў. Паводле гэтага дакумента, супрацоўнікі праваахоўных органаў пры адсутнасці ў прыватніка сертыфіката маюць права без суда і следства канфіскоўваць тавар.

Актыўны пратэст дробных прадпрымальнікаў супраць свавольства ўладаў пачаўся вясной гэтага года. Пасля папераджальнай забастоўкі на мінскім стадыёне «Дынама» на пачатку траўня ўлады пайшлі на дыялог з гандлярамі. Вынікам яго стаў яшчэ адзін прэзідэнцкі дэкрэт, які перапыняў дзеянне дэкрэта № 14 да 1 верасня.

Аднак на дварэ ўжо 3 верасня, а прадпрымальнікі дагэтуль знаходзяцца «ў падвешаным стане». Старшыня Свабоднага прафсаюза прыватных прадпрымальнікаў Сяргей Фамін гаворыць, што ў любы момант улады могуць аднавіць павальную канфіскацыю несертыфікаваных тавараў. У жніўні на сходзе прадстаўнікоў прадпрымальніцкіх прафсаюзаў было вырашана па ўсёй рэспубліцы распачаць бестэрміновую забастоўку з таго моманту, як толькі з'явіцца першы факт канфіскацыі тавару.

Як бачна, прадпрымальнікі многіх рэгіёнаў краіны не сталі чакаць канфіскацыі — яны не выйшлі на працу.

Ці хопіць у чыноўнікаў розуму не развязваць чарговую вайну супраць працаўнікоў рынкаў Беларусі? ■

# Ціск на лідэра

## Так спрабуюць «разабрацца» з прадпрымальнікамі ў правінцыі

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

500 аршанскіх прадпрымальнікаў сабраліся 31 жніўня, каб сустрэцца з прадстаўнікамі гарвыканкама. Ад мясцовых уладаў выступіла нейкая Федарэнка. Выступ яе быў настолькі незразумелым і бестактоўным, што запомнілася толькі фраза: «Жылі мы без прадпрымальнікаў і далей пражывём».

Трэба адзначыць, што двума днямі раней адбыўся першы сход прадпрымальнікаў, пасля якога старшыня Свабоднага прафсаюза Оршы Віктар Андрэеў і яговы калега па прафсаюзным руху Аляксандр Сталяроў былі затрыманыя і асуджаныя да штрафу ў 40 мільёнаў рублёў.

Нешта падобнае мусіла здарыцца і 31 жніўня. Міліцыянты паспрабавалі ізноў забраць у пастарунак Віктара Андрэева, але раз'юшаныя прадпрымальнікі перакрылі рух аўтатранспарту, блакіравалі міліцэйскую «Волгу» і вымусілі ахоўнікаў правапарадку адступіць.

Толькі дзеянні маёра міліцыі, які камандаваў міліцыянтамі, здолелі спыніць наспяваныя бойкі.

Сітуацыя ў Оршы застаецца складанай. ■

# Депутат за «железным занавесом»

*Окончание. Начало на стр. 1*

Отказ последовал несмотря на то, что «палаточники» кровно заинтересованы в представителях единственного органа, за который они держатся. Ведь членство марионеточного парламента Беларуси в Межпарламентском союзе — единственная возможность для «палаточников» разъяснять в международной организации преимущества белорусского режима. МПС признает любые парламенты по факту их существования, а не по признаку избрания. Отсюда — членство в МПС не только белорусской «палатки», но и их друзей из Ирака, Кубы, Северной Кореи.

К тому же в миссии были не представители ненавистных государств, а граждане Чили и Югославии. Но, видимо, боятся белорусские власти, что миссия увидит истинное положение дел в Беларуси и узнает, каким преследованиям подвергаются депутаты Верховного Совета.

Оба этих отказа не останутся безнаказанными. По регламенту работы Комитета МПС по правам человека парламентариев случаи нарушения этих прав какое-то время рассматриваются в конфиденциальном порядке, а потом выносятся на публичное обсуждение МПС. У белорусских властей была возможность сохранить еще на некоторое время конфиденциальность работы Комитета по делам из Беларуси, если бы миссия состоялась. Однако два отказа в приезде, причем непосредственно накануне поездок, иначе как оскорбление членов Комитета восприниматься не могут. Поэтому публичное обсуждение нарушения прав депутатов Верховного Совета можно ожидать уже на ближайшей конференции МПС, которая пройдет с 11 по 16 октября в Берлине. ■

# Багатыя заплацяць больш

Алесь ПАЎЛОВІЧ

**У Беларусі ўведзеныя новыя тарыфы кватэрнай платы і платы за цяпло. З 1 верасня яны будуць разлічвацца зыходзячы не з жылой, а з агульнай плошчы кватэраў. Адпаведная пастанова падпісаная кіраўніком урада Беларусі напрыканцы жніўня і надрукаваная ў афіцыйных СМІ. Як увядзенне новых тарыфаў адаб'ецца на дабрабыце жыхароў краіны? Ці будзем мы плаціць за кватэры больш? За адказамі на гэтыя пытанні НАВІНЫ звярнуліся ў міністэрства камунальнай гаспадаркі.**

«Асноўная колькасць жыхароў больш плаціць не будзе», — запэўніла нас намеснік начальніка ўпраўлення эканомікі міністэрства Валянціна Кандратава і наступным чынам абгрунтавала гэтую высновў. Хоць плата за кватэру будзе зараз разлічвацца ў залежнасці ад агульнай плошчы жылля, але кошт аднаго метра знізіцца. Чаму? Таму, што квадратны метр падзешавее на столькі ж, на колькі агульная плошча большая за жылую.

Паводле разлікаў спецыялістаў міністэрства, у сярэднім плата за метр знізіцца на 60%, бо менавіта столькі складае жылая плошча ў параўнанні з агульнай. У выніку ўвядзення новых тарыфаў нават крыху зменшыць аплату за жыллё для ўладальнікаў трохпакаёвых кватэраў у панельных дамах, аднак тыя, хто жыве ў аднапакаёвых кватэрах, будуць плаціць крыху больш. Але галоўным чынам новаўвядзенне закране жыхароў кватэраў з вялікімі калідорамі і прыхожымі, якія пераважна знаходзяцца ў мураваных дамах. Уладальнікам гэтага жылля, звычайна людзям не бедным, давядзецца плаціць больш на 10—20 працэнтаў.

Згодна з пастановай урада, у адпаведнасці з агульнай плошчай жылля зараз будзе налічвацца і плата за ацяпленне, але таксама па больш нізкіх тарыфах, якія выведуць з суадносінаў жылой і агульнай плошчы.

Спецыялісты запэўніваюць, што ў выніку і гэта не адаб'ецца на даходах сярэдняга жыхара. Затое з'явіцца аплата, якой раней не было. За карыстанне ліфтам. Валянціна Кандратава назвала лічбу ў 40 тысяч рублёў — столькі прыблізна будзе плаціць кожны, хто прапісаны ў кватэры, якая знаходзіцца вышэй за другі паверх. А калі ліфт зламаўся і некалькі дзён не працаваў? «Усе спрэчныя пытанні будуць вырашацца на падставе інструкцыі, якая будзе распрацаваная ўжо ў верасні», — запэўніла В.Кандратава.

І яшчэ адно новаўвядзенне — больш жорсткія санкцыі супраць тых, хто несвоечасова аплачвае жыллё. Цяпер разлічвацца з камунальнікамі трэба будзе не пазней як праз два тыдні пасля мінулага месяца. Інакш будуць браць штраф — 0,5 працэнта ад агульнай сумы плацяжу за кожны дзень спазнення. ■

АД РЭДАКЦЫІ

# Что и требовалось доказать

31 августа, сразу после появления на страницах НАВІНАЎ статьи Николая Халезина «Организованная партийная группа», в редакцию пришел факс за подписью руководителя Либерально-демократической партии Сергея Гайдукевича. В нем содержался как контактный телефон Валентина Каретникова, так и скрытые угрозы в адрес нашего заместителя главного редактора.

В своем послании лидер либерал-демократов пишет: ***«Уважаемый господин Николай Халезин! От имени Высшего Совета Либерально-демократической партии выражаем свою благодарность за развитие либерально-демократических идей в Республике Беларусь. Надеемся, что до тех пор, пока Вы еще на свободе и со здоровьем у Вас все нормально, Вы успеете написать много хороших, разных и полезных для нашего читателя статей».***

За откровенно ерническим стилем скрывается угроза в адрес журналиста. Этим посланием лидер ЛДПБ еще раз подтвердил скандальный стиль своей партии. Невозможно представить себе, чтобы подобное письмо было подписано руководством любой демократической партии — будь то Белорусский Народный Фронт или Объединенная гражданская партия.

В продолжении послания говорится следующее: ***«Да, кстати, рабочий телефон Валентина Александровича Каретникова, по которому Вы можете уточнить с ним сумму иска к Вам и к "подставленной" Вами газете - 231-63-31».***

Этим текстом Сергей Гайдукевич, видимо, хочет объяснить нам, что уголовное дело Валентина Каретникова уже закрыто. Мы, конечно, попытаемся уточнить нюансы этого громкого дела, начатого в 1997 году, в органах внутренних дел. И, естественно, уведомим об этом наших читателей. ■


ЛИБЕРАЛЬНО-ДЕМОКРАТИЧЕСКАЯ ПАРТИЯ
Центральный аппарат Высшего совета ЛДП
Республика Беларусь
220071, г. Минск, ул. Платонова, 22, 12 этаж
Тел./факс (017) 231 63 31, 231 80 47 (приемная), 231 67 66 (орготдел) 231 62 88 (пресс-служба)
№ 05/50 от 31.08. 199 г.

В редакцию газеты «Навіны»

Уважаемый господин Николай Халезин!

От имени Высшего Совета Либерально-демократической партии выражаем свою благодарность за развитие ... демократических идей в Республике Беларусь ... тех пор, пока Вы еще на свободе и ...

ГОЛАС ВУЛІЦЫ

**Якія з беларускіх прадуктаў вы лічыце якаснымі і заўсёды аддаеце ім перавагу перад замежнымі аналагамі?**



Алег ГАРДЗІЕНКА, інстытут гісторыі

— Ну, я лічу якаснымі нашыя чыпсы «Смак», піва, пераважна «Аліварыя». Марозіва беларускае таксама вельмі якаснае, ну і тое, што прадаюць на «Камароўцы» з мясных прадуктаў.



Оля ЛЕШЫК, студэнтка журфака БДУ

— Малочныя прадукты: тварог наш, смятана 25- і 35-працэнтная. Кефір вельмі смачны ў нас, якасны той, што ў дзяржаўных крамах прадаецца.



Вольга ЯКІМЕНКА, эканаміст

— Вельмі падабаюцца беларускія шакаладныя цукеркі фабрыкі «Камунарка». Сарты цукерак: «Крыжачок», «Чароўмушкі». Вельмі смачныя нашыя чыпсы «Лявон», падыходзяць добра да піва.



Ігар, турмэнэджэр

— Я люблю малочныя прадукты: тварог, смятана, калі 30 працэнтаў. І піва «Леў» вельмі смачнае, выдатнае.



Галіна, інкасатар

— Хлеб наш найбольш якасны: «Траецкі», «Водар» і «Мінскі». Малочныя прадукты: кефір любы, сыры дарагіх гатункаў, назваў не памятаю.



Уладзімір, інжынер

— Ну, мабыць, гарэлка — самы якасны беларускі прадукт. «Крышталь-100» там, «Белая Русь». Значна лепш п'ецца наша, чым замежная гарэлка. Але вось закуска лепш замежная.

Апытвалі Аляксей ШЫДЛОЎСКІ, Уладзімір ШЛАПАК (фота)

памяць XX стагоддзя 1919

# Чорныя шыхты

Кастусь ТАРАСАЎ

Памятная падзея пэўнага года — справа суб'ктыўная. У Амерыцы 1919 год быў радасны: на еўрапейскім фронце загінула няшмат амерыканцаў, ваенныя заказы паспрыялі ўзбагачэнню манаполіяў, ЗША пачалі ўплываць на сусвет. Для народаў былой Расійскай імперыі гэта быў самы жорсткі год грамадзянскай вайны. Для Германіі 1919 год помніцца стратай тэрыторыяў, жахам беспрацоўя, рэпарацыямі з выплатай па 1988 год, вар'яцкай інфляцыяй. Ну, і гэтак далей.

Але, як засведчылі наступныя дзесяцігоддзі, 1919 год адзначаны ў аналах гісторыі ўзнікненнем фашысцкай ідэалогіі, якую першым сфармуляваў і пачаў здзяйсняць Бяніта Мусаліні. У 1919 годзе адбыўся першы марш італьянскіх фашыстаў (фасцыя — звязка пруткоў, старадаўні знак рымскай улады). Апранутыя ў чорныя кашулі прыхільнікі Мусаліні прайшлі шыхтамі за сваім харызматычным правадыром. Яму было 36 гадоў, за плячыма ён меў вопыт школьнага настаўніка, пасаду галоўнага рэдактара газеты сацыял-дэмакратычнай партыі «Аванці». З сацыялістаў Мусаліні выключылі на пачатку Сусветнай вайны. Па яе заканчэнні Мусаліні зразумеў, якія ідэі дазволяць яму займець падтрымку правых радыкалаў і мільёнаў збяднелага насельніцтва. Найперш гэта жаданне моцнай дзяржавы, якая дасць пачуццё стабільнасці, моцнай партыі, здольнай забяспечыць узяцце ўлады, і патрэбных партыі ахоўных атрадаў, якія маюць надаць ёй фізічную сілу.

У 1922 годзе Мусаліні аб'явіў мабілізацыю фашысцкіх аддзелаў і канцэнтрацыю іх у ваколіцах Рыма. Гэта паўплывала на ўрад , і кароль прызначыў Мусаліні прэм'ерам. Зразумела, што фашысты адсвяткавалі перамогу маршам атрадаў па вуліцах Вечнага горада.

Маючы ў руках уладу, Мусаліні арганізаваў шэраг забойстваў найбольш уплывовых палітычных дзеячаў. У 1923 годзе партыйныя атрады чорнарубашачнікаў быліператвораныя ў фашысцкую міліцыю. На выбарах 1924 года за фашыстаў прагаласавала ўжо 4,5 мільёна чалавек, супраць іх — 3 мільёны. Праз два гады ўвядзеннем надзвычайных законаў, нібыта скіраваных на ўзмацненне дзяржавы, Мусаліні забараніў дзейнасць усіх партыяў, апроч фашысцкай, дзеячы апазіцыі апынуліся ў лагерах, мноства нязгодных было забіта па начах бандамі чорнарубашачнікаў.

Прыклад Мусаліні паўплываў на Гітлера, які ў 1923 годзе паспрабаваў правесці марш на Берлін («піўны путч» у Мюнхене), а пасля 1933 года па італьянскім узоры расправіўся з сацыялістамі. Італьянскі вопыт цэнтралізацыі ўлады, абвяшчэння дзяржавы галоўнай каштоўнасцю выкарыстаў Сталін. Яшчэ яму ўпадабаўся вопыт усläўлення Мусаліні органамі прапаганды. Прыкладам, пасля галасавання за сталінскую канстытуцыю ў 1936 годзе ўсю ноч і ўвесь наступны дзень па радыё зачытвалі бюлетэні , паўтараючы сотні тысяч разоў адзіную фразу: «За Сталіна!» Аднак аснова сучаснага таталітарызму была закладзеная Мусаліні. Нават узброеная дзейнасць па пашырэнні дзяржаўных межаў была апрабаваная спачатку ім. У 1936 годзе Мусаліні распачаў вайну супраць Эфіопіі - яму хацелася замацавацца ў Паўночнай Афрыцы. Вялікі корпус быў пасланы на дапамогу Франко. З пачаткам Сусветнай вайны Мусаліні падтрымаў Гітлера. На Францыю Мусаліні напаў 10 чэрвеня 1940 года. На савецкі фронт у 1941 годзе быў накіраваны экспедыцыйны корпус у складзе 10 дывізіяў (цалкам разгромлены пад Сталінградам ). Італьянскія войскі былі ў Албаніі, Грэцыі, Югаславіі. Крах спасцігнуў Мусаліні пасля высадкі англаамерыканскіх войскаў у Сіцыліі (10 ліпеня 1943 года). 19 ліпеня Мусаліні выехаў на сустрэчу з Гітлерам у Фельтрэ прасіць для падтрымкі германскую тэхніку і вайсковыя падраздзяленні. Гітлер у падтрымцы адмовіў. Прывід паражэння прымусіў італьянскага караля адхіліць дучэ ад улады і ўзяць пад варту. Ёсць некалькі кінафільмаў, якія апавядаюць, як Гітлер разлаваўся з гэтай здрады «макароннікаў» і як каманда дэсантнікаў СС вызваліла Мусаліні. Ён узначаліў марыянетачны ўрад у акупаванай немцамі Паўночнай Італіі. У верасні 1943 года Італія падпісала з саюзнікамі акт капітуляцыі, і пачалося паўстанне італьянскага народа супраць немцаў. Партызанаў у Італіі было 351 тысяча.

25 красавіка 1945 года Мусаліні быў захоплены партызанамі і ў горадзе Джуліа-ды-Мецэра каля возера Камо расстраляны. Гітлер перажыў свайго «сябра» на некалькі дзён. Як часта бывае, пэўнае кола людзей лічыць памяць дыктатараў святой, падобна таму, як у нас немалая колькасць выходзіць на мітынгі з партрэтамі Сталіна. Людзі, на жаль, хутка забываюць ахвяраў чорных шыхтоў, без якіх не можа трымацца ніводная аўтарытарная таталітарная сістэма. ■



Бяніта Мусаліні (у цэнтры)

ПОШТА

# Как вам не стыдно, вы ведь глава государства!

***Уважаемая редакция, прошу Вас опубликовать мое письмо, адресованное президенту.***

Г-н президент, до каких пор Вы будете публично по телевидению и радио унижать как оппозицию, так и простых граждан Беларуси? С Ваших слов, у нас в стране «демократии выше головы». Но тогда Вы должны знать, что в демократическом обществе перед законом все равны. Вы же публично позволяли себе говорить, что Шеремет — «шпион», но суд этого факта не подтвердил. Старовойтова называли вором и причастным к убийству Миколуцкого, суд также это не подтвердил. Еще не начался суд над Чигирем и не вынесен приговор Леонову, а Вы их называете ворами. Кто дал Вам право так обращаться с людьми? Как Вам не стыдно, Вы ведь глава государства?

Я пенсионерка, мне 70 лет. На своем веку многое повидала, но не могу вспомнить, чтобы кто-нибудь из руководителей государства так относился к своему народу. Я смотрю все российские каналы, но ни разу не слышала, чтобы Ельцин занимался подобным.

Г-н президент, считаете ли Вы себя порядочным человеком? Вспомните вашу дуэль с Кебичем на телеэкране во втором туре президентских выборов. Если забыли, я Вам напомню. Вы сказали, что за две недели ликвидируете залежи нелеквидной продукции, а в течение двух лет нашу жизнь сделаете «райской». В противном случае: «Я как порядочный человек уйду в отставку». За пять лет Вашего правления народ Беларуси дошел до полной нищеты, в особенности пенсионеры. Пенсионеры, придя в магазин, даже не смотрят на прилавки, где продают колбасу, мясо, сыр, рыбу и т.д., а сразу идут в отдел, где продают хлеб. Просят четвертинку хлеба и четвертинку батона. Получив четвертинку хлеба и без батона, так как батон не режут на 4 части, уходят из магазина, чтобы не заплакать.

За пять лет Вашего правления страна оказалась в полной экономической и политической изоляции. Но этого и нужно было ожидать. Будучи председателем совхоза «Городец», молодой, энергичный, Вы ничего не смогли сделать для того, чтобы Ваше хозяйство стало передовым.

Г-н президент, до каких пор Вы будете говорить неправду по поводу референдума 1996 года. У меня сохранились газеты и бюллетень 1996 года, где предлагалось внести изменения и дополнения в Конституцию 1994 года. Прочитав раз сто все дополнения, я так и не нашла то место, где написано, что Ваши полномочия продлялись еще на 2 года.

Г-н президент, кто дал вам право лишать как Беларусь, так и ее народ суверенитета. Вы этот суверенитет не завоевывали, и поэтому у Вас нет на это морального права. Я не против дружбы с Россией, но только экономической. Я не хочу, чтобы мои внуки и правнуки стали разменной монетой в горячих точках России. Достаточно вспомнить советские времена, когда первые, кто погиб на афганской земле, — это были белорусские мальчики из Витебской дивизии.

И последнее, г-н президент. Помню, когда Вы, будучи депутатом Верховного Совета 12-го созыва, просили Даментея с достоинством уйти в отставку. Г-н президент, наберитесь мужества и с достоинством уйдите в отставку, тем более, что после 20 июля 1999 года Вы являетесь нелегитимным президентом.

За пять лет Вашего правления Вы ничего хорошего для народа не сделали и не сделаете.

**БЕЛЯВСКАЯ Н.И., пенсионерка, г.Минск**



# Живу «под наблюдением»

О том, что мы живем в полицейском государстве с огромным аппаратом надсмотрщиков и соглядатаев, давно известно, пожалуй, каждому здравомыслящему гражданину. Однако о размерах и возможностях этой плохо видимой, но хорошо оснащенной машины лично я узнал только недавно.

30 октября прошлого года, вернувшись с шествия «Дзяды-98», организованного оппозиционными партиями, дома застал человека в форме МВД, который представился коротко: «Я — Золотарь. Предъявите паспорта для проверки». На мой законный вопрос — «В чем дело?» последовало тоже короткое: «Ваша квартира находится под наблюдением». Мой паспорт и паспорт моей жены оказались в порядке, однако милиционер записал что-то в свой блокнот. Я скромно полюбопытствовал: по какой причине наша квартира под наблюдением и кто за нами будет наблюдать? В ответ мы услышали: «Нечего шляться где попало. Активисты!» Позже удалось выяснить, что Золотарь Виктор Викентьевич, проявивший эту «отеческую» заботу, является нашим участковым инспектором.

Итак, уже более полугода мы живем «под наблюдением». Зачем, почему и кто за нами наблюдает? Трудно себе представить, что многие тысячи людей, участвующих в демонстрациях, акциях протеста, многие тысячи людей, стремящихся вернуть своей родине демократию и законную власть, — все эти люди, как подопытные кролики, живут «под наблюдением».

Кому-то очень интересно — выживем ли мы? Выживем! Потому что для нас выжить — это значит не потерять волю думать и говорить то, что мы думаем, сохранить смелость не соглашаться, когда нас пытаются загнать в стойло.

Сегодня я вступаю в ряды Объединенной гражданской партии. Это мой вызов чванству, лицемерию и беззаконию. Знаю, что «наблюдение» только усилится, но бояться его — это значит потакать тем, кто над нами смеется, кто считает нас подопытными.

**А.ДЕДОК**

ПЫТАННЕ — АДКАЗ

***Паважаная рэдакцыя газеты НАВІНЫ!***

*Гэты ліст, калі вы на яго адкажаце, можа стаць для мяне першым крокам да змены майго жыцця.*

*Калі можна, дашліце мне адрас і тэлефон аддзялення БНФ у Магілёве або ў бліжэйшых да Крычава гарадах, бо прадстаўніцтва БНФ у нашым горадзе няма. Прачытаўшы артыкул Зміцера Бандарэнкі «Стань побач» (№ 91 ад 13 жніўня 1999 года), я вырашыў абавязкова ўступіць у БНФ.*

*Мне 16 год, але сілаў глядзець спакойна на тое, як старанна вынішчаюць беларускую мову і гісторыю, няма.*

***З павагай да вас, Яўген.***

Паважаны Яўген! НАВІНЫ вырашылі падтрымаць твой намер змяніць жыццё. Спадзяемся, што змены гэтыя будуць да лепшага. Друкуем каардынаты самых уплывовых партыяў, якія змагаюцца за дэмакратычныя каштоўнасці, у тым ліку за нашу мову і гісторыю.

**Беларускі Народны Фронт — Малады Фронт:** г.Мінск, ул.Варвашэні, 8, тэл: 284-50-12; г.Магілёў, вул.Ленінская, 27—50, тэл: 25-64-73; г.Крычаў, пр.Камсамольскі, 10-7, тэл: 2-32-68, Судзілоўскі Валерый.

**Аб'яднаная Грамадзянская Партыя:** г.Мінск, вул. Кірава, 33—11, тэл: 227-44-67; г.Магілёў, пр.Міру, 20—32, тэл: 22-04-82, Сівуха Валерый.

**Беларуская Сацыял-дэмакратычная партыя (Народная Грамада):** г.Мінск, пр.Ф.Скарыны, 153—2—107, тэл: 263-37-48; г.Магілёў, тэл: 23—22—12, Уладзімір Лапцэвіч; г.Крычаў, тэл: 5—52—40, Свецік Леанід. ■

***Добры дзень, паважаная рэдакцыя!***

*У мяне — непрыемнасць. У аўторак, 17 жніўня, я не атрымала НАВІНЫ. Сапсаваўся настрой. Я звярнулася ў сваё паштовае аддзяленне № 8 з запытам. Тут працуюць цудоўныя людзі. Загадчыца тут жа пазваніла ў цэнтральны аддзел. І што Вы думаеце адказалі? Газета не паступіла ні ў адно паштовае аддзяленне горада, толькі ў кіёскі. Вы — занятыя людзі, але, калі ласка, разбярыцеся.*

*Здароўя Вам, шчасця, творчых поспехаў, доўгіх год жыцця ўсім Вам і нашай газеце.*

***Вера Паўлаўна КЛЫКОЎСКАЯ, Пінск***

НАВІНЫ звярнуліся па тлумачэнні, чаму да падпісчыкаў не дайшла наша газета, у аб'яднанне «Белпошта». Намеснік загадчыка цэха экспедавання друку Чабурка Міхаіл Леанідавіч паведаміў, што сапраўды 92 нумар НАВІНАЎ не быў дастаўлены своечасова падпісчыкам у Пінску, таму што гэтыя экземпляры былі пашкоджаныя пры механізаванай транспарціроўцы. Каб выправіць гэтую непрыемнасць, мы з свайго архіву ўзялі экземпляры, якіх не хапіла, і перадалі ў цэх экспедавання. Па словах Міхаіла Чабуркі, у той жа дзень газеты былі дастаўленыя ў Пінск. За што яму вялікі дзякуй!

Спадзяемся, што гэтым разам наша чытачка Вера Паўлаўна не засталася без любімай газеты. Чытайце нас і заставайцеся з намі! ■


Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996
Выдаецца з 16 студзеня 1998 г. В.а. галоўнага рэдактара і заснавальнік Павел Жук. Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ. Адрас для карэспандэнцыі: 220034, г. Мінск, вул. З.Бядулі, 6-47. Тэл./факс: 236-89-40.
E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 593 Нумар падпісаны ў друк 02/09/99 (15:00) Наклад — 21.170